Цана 15 гр. „Białoruski Front" 1 maja 1939 г. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

**Выпіска:** на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 9 (43) Вільня, 1 траўня 1939 г. Год IV

## АКТУАЛЬНЫЯ РАЗВАЖАНЬНІ.

Жывём у часох вялікіх палітычных зрухаў і вялікіх палітычных пераменаў. Гэтыя перамены адбываюцца ня толькі ў ваднэм краі, або ў ваднэй часьціне сьвету, але абыймаюць сабою ўсе краі і ўсе часьціны нашай плянэты. Значыць, гэтыя зьявішчы маюць прымету *паўсюднасьці*.

Абсэрвуючы ўважна жыцьцё апошніх часоў, кідаецца ў вочы факт, што ўсе гэтыя перамены датычаць не рэлігійных і не грамадзкіх спраў, як гэта было даўней, але спраў *палітычных*. Відаць, людзі імкнуцца да вырашэньня тых спраў, якія сталі на парадку дня. Рэлігійныя справы датычаць у першую чаргу чалавечых адзінак, грамадзкія (сацыяльныя) справы датычаць пасобных клясаў або групаў людзей, а палітычныя — дзяржаваў і нацыяў. Справы адзінак і клясаў (групаў) цяпер выходзяць на другі плян, а на першы плян выбіваюцца справы нацыяў.

Тыя нацыі, якія ўжо стварылі свае дзяржавы, жадаюць пашырэньня свайго жыцьцёвага прастору, нават коштам іншых народаў; а тыя народы, якія ня маюць сваіх дзяржаў і гэтым самым ня маюць ня толькі прастору да жыцьця, але і варункаў да жыцьця (бо кожная нацыя можа нармальна жыць і разьвівацца толькі ў сваей дзяржаве), стараюцца стварыць гэтыя варункі. Але тут яны становяцца ўпоперак дарогі тым дзяржавам, якія шукаюць для сябе шырэйшага прастору да жыцьця, або інакш кажучы, шукаюць экспансіі на чужыя тэрыторыі. Гэтакім парадкам прыходзіць да вялікіх супярэчнасьцяў паміж рознымі народамі — і ў гэтых супярэчнасьцях трэба шукаць прычын сяньняшніх пераменаў і зрухаў, аб якіх мы ўспомнілі.

*Значыць, змаганьне за быт, барацьба за існаваньне палітычна-біолёгічных арганізмаў, якія завуцца нацыямі, ёсьць галоўным і найглыбейшым мотарам сяньняшніх падзеяў.* Тыя нацыі, якія дасьпелі да дзяржаўнага жыцьця, твораць свае дзяржавы, каб у іх нармальна разьвівацца і забясьпечыць свой быт, а тыя нацыі, якія стварылі ўжо свае дзяржавы, але якім цесна на сваей тэрыторыі, шукаюць прастору для свайго жыцьця. Прыгэтым яны шукаюць прастору ня толькі для свайго нацыянальнага жыцьця, але і дзяржаўнага, ведаючы добра, што іхная нацыя можа быць забясьпечана толькі ў іхнай дзяржаве. Дзеля гэтага цяпер разам з пашырэньнем дзяржавы пашыраецца дзяржаўная нацыя, а разам з пашырэньнем нацыі пашыраецца і дзяржава.

На працягу гісторыі чалавецтва падобныя рухі і перамены адбываліся ў часе г. зв. перасяленьня народаў (IV—VI стагодзьдзі). Аднак у той час народы не аставаліся на месцы, але пакідалі сваю бацькаўшчыну і ішлі ў сьвет шукаць для сябе прастору да жыцьця і лепшай долі. Цяпер-ж астаюцца на месцы, а толькі пашыраюць свае ўплывы на суседнія народы. У часе перасяленьня народаў слабыя народы мусeлі ўступаць месца сільнейшым. Гэтак дзеецца і цяпер, толькі іншым спосабам, разложаным на цэлыя дзесяткі, а можа і соткі гадоў. Гэты спосаб ляжыць у тым, каб пры помачы культурных і эканамічных уплываў, а такжа і сілы (асадніцтва і калянізацыі) паддаць пад сваю ўладу або і зьнішчыць зусім суседнія слабейшыя народы. Значыць, гора тым народам, якія знаходзяцца ў суседзтве з вялікімі і сільнымі народамі і якія не пятрапяць абараніцца!

Падзеі ў часе і пасьля перасяленьня народаў доўгі час былі плыўкімі, ня маючымі сталых і азначаных форм. Трэба было цэлых дзесяткаў і сотняў гадоў, каб адносіны з плыўкіх зрабіліся сталымі. Магчыма, што падобнае зьявішча будзе і цяпер. Усе гэтыя саюзы і блёкі, якія творацца цяпер, ня ёсьць сталымі і яны разсыпліюцца, так як разсыпаліся антанты і саюзы з Вялікай вайны. Болей моцнымі і трывалкімі на гэтым сьвеце ёсьць народы — нацыі. Яны трываюць тысячы гадоў. Фізычнае існаваньне нацыі пераходзіць ад бацькоў да дзяцей, з пакаленьня ў пакаленьне. Гэтак сама павінна пераказвацца і псыхічнае існаваньне нацыі, абапёртае ў першую чаргу на сьведамасьці і волі. З сьведамасьці і волі родзяцца *мэты нацыі,* якія не заўсёды могуць быць рэалізаваны адным пакаленьнем. Дзеля гэтага вялікія мэты павінны быць рэалізаваны цэлымі, наступаючымі адно па адным пакаленьнямі...

У сучасных варунках *першым заданьнем* беларускіх дзеячоў ёсьць абарона і захаваньне беларускай нацыі. У папярэднім нумары „Б. Фронту“ мы пісалі, што абарона беларускага народу і захаваньне ягонага нацыянальнага воблiку павінна быць правілам для ўсіх беларусаў у кожных абставінах жыцьця, як у часе супакою, так і ў часе буры. І гэта трэба споўніць паміма таго, што ў надыходзячым змаганьні паміж двама блёкамі ня будзе пашчады для нікога. Трэба ведаць, што дзе адбываецца сьмяротнае змаганьне, там ня толькі няма пашчады для сваіх, але тымбалей для чужых.

*Другім правілам* павінна быць праканаНьне, што ніхто ня будзе змагацца для нашай карысьці, але кожны для сваей. Ніякі бальшавік, ніякі немец, ніякі француз ці хто іншы для чужога народу не пральле каплі крыві, калі ў гэтым ня будзе бачыць для сябе інтарэсу. Людзі змагаюцца не для чужых, але для сваіх інтарэсаў. Але разам з гэтым могуць стварыцца такія варункі, што падняволеныя цяпер і безьдзяржаўныя народы могуць быць патрэбны дзеля роўнавагі сіл, таксама, як дзеля гэтайжа роўнавагі патрэбны ў сучаснасьці дзяржаўныя народы — а тады і падняволеныя народы будуць мець свой голас.

## ДЫПЛЯМАТЫЧНАЯ ВАЙНА.

У другой палавіне красавіка, замест аружнай вайны, якой спадзяваліся, разгарэлася дыпляматычная вайна. Пачатак гэтай вайне даў прэзыдэнт Злуч. Штатаў Паўночнай Амэрыкі, Рузвэльт. Гэты чалавек, які стаіць на чале вялікай заакіянскай рэспублікі, дня 15.IV.38. выслаў Гітлеру і Муссоліняму даўгую тэлеграму, у якой выступіў з прапазыцыяй агульнага замірэньня. Галоўныя думкі гэтай прапазыцыі такія: Сьвет перажывае вялікі страх перад новай вайною. У вапошнім часе некаторыя народы ў Эўропе і адзін у Афрыцы стравілі незалежнасьць. Ня трэба наражаць увесь сьвет на ваеннае зьнішчэньне новым нападам. Дзеля гэтага Рузвэльт прапануе, каб Гітлер і Муссоліні забавязаліся не нападаць на такія дзяржавы: Фінляндыю, Эстонію, Латвію, Літву, Швэцыю, Нарвэгію, Данію, Галяндыю, Бэльгію, Партугалію, Францыю, Англію, Ірляндыю, Гішпанію, Швайцарыю, Ліхтэнштэйн, Люксэмбург, Польшч, Вугрыю, Румынію, Югаславію, Баўгарыю, СССР, Грэцыю, Турцыю, арабскія дзяржавы: Сырыю, Палестыну, Эгіпет, Пэрсію, Ірак. Забавязаньне ненападу было-б дадзена найменш на 10 гадоў. Тады ён, Рузвэльт, бярэ на сябе пасярэдніцтва ў скліканьні міжнароднай канфэрэнцыі, якая-б занялася вырашэньнем двух спраў: 1) агранічэньня ўваружэньняў, якія могуць давесьці сьвет да руіны і 2) свабоды міжнароднага гандлю і роўныя правы ў здабываньні сыравіны, патрэбнай для промыслу. Прыгэтым Рузвэльт заяўляе, што Амэрыка ня мае ніякіх захватніцкіх намераў і дзеля гэтага можа быць пасярэднікам.

Англія і Францыя да гэтай прапазыцыі Рузвэльта аднесьліся вельмі прыхільна, але затое нямецкая, італьянская і вугорская прэса аднеслася вельмі варожа. У сваей варожасьці на першы плян выбіваецца нямецкая прэса. Гітлероўскі „Völkischer Beobachter“ называе Рузвэльтаву тэлеграму прапагандней лістоўкай і кажа, што ня хто іншы, але якраз сам Рузвэльт прычыніўся да справакаваньня тэй ваеннай панікі, якая цяпер абхапіла ўвесь сьвет, а цяпер ён выступае як апостал супакою. Далей газэта цьвярдзіць, што Рузвэльт не разумее змаганьня паміж жывымі сіламі новай Эўропы а фрондай дыпляматаў, якія цярпяць на старэцкую слабасьць. Другі гітлероўскі афіцыёз „Deutscher Dienst“ піша: „цкаваць а потым адыгрываць ролю апостала міру, гэта палітыка, якую спатыкаем у Рузвэльта ня першы раз“.

Як бачым, адказ нямецкай прэсы быў вельмі востры. Сам-жа Гітлер заявіў, што шаг Рузвэльта ёсьць вельмі важным і ён на яго адкажа на паседжаньні райхстагу дня 28 красавіка. Тымчасам Нямеччына зьвярнулася да 19-ці дзяржаў з тых 30-ці, якія пералічыў Рузвэльт, з запытаньнем. ці яны чуюцца загрожанымі нямецкай агрэсыяй, ці не? (Англія, Польшч і рэшта з 11-ці дзяржаў такога запытаньня не атрымалі). Бадай усе запытаныя дзяржавы, нават Літва, Данія, Галяндыя і іншыя, на каторыя паказвалі як на далейшыя нямецкія ахвяры, адказалі, што яны загрожанымі ня чуюцца.

Пасьля такога дыпляматычнага падгатаваньня Гітлер выступіў перад райхстагам. Трэба прызнаць, што такога напружанага чаканьня, якое было ў палітычных кругох перад прамовай Гітлера, у гісторыі рэдка калі можна было спаткаць. Чаканьнем прамовы Гітлера быў проста наэлектрызаваны ўвесь сьвет.

Што-ж сказаў Гітлер?

Наўперад дзякуе Божаму Агляду, што пазволіў яму, як даўнейшаму простаму салдату, а цяпер павадыру нямецкага народу, знайсьці шляхі, каб без праліцьця крыві асвабадзіць гэты народ з тэй нядолі, у якой ён апынуўся пасьля Вэрсальскага трактату. Адзіным жаданьнем Гітлера было вярнуць тое, што сілаю было забрана ад Нямеччыны. У граніцах Ням. няма цяпер ніводнага краю, які-б даўней да яе не належаў або ня быў з ёю зьвязаны. Нямецкая дзяржава існавала на многа гадоў перад адкрыцьцём Амэрыкі і мела свае вялікія абшары і сваю высокую культуру. Нямеччына ня будзе мець прэтэнсыі да краёў, якія ніколі да яе не належалі. Вэрсальскі трактак падзяліў сьвет на паноў і на слуг. Устаноўленыя граніцы дзяржаў ёсьць несправядлівыя. Вырашалі аб гэтых граніцах тыя палітыкі, якія самі ня бралі ўдзелу ў вайне.

Адносна Францыі Гітлер заявіў, што франц. палітыкі яго не разумеюць, у сваім часе ён прапанаваў гэтай дзяржаве згоду, аднак Францыя ягоную прапазыцыю адкінула. Яна думае, што Нямеччына баіцца Францыі, але гэта няпраўда. Францыя не дацэньвала добрай волі Гітлера і цяпер віна падае на яе. Заняцьце Аўстрыі Гітлер апраўдывае прынцыпам самаазначэньня народаў, а заняцьце Чэхіі — прыналежнасьцяй гэтага краю да д. Нямецкай імпэрыі. Прыгэтым Чэхаславаччына была арсэналам і аружным пляцдармам для заходніх дзяржаў. Клайпэду літоўцы дабравольна ўступілі Нямеччыне і цяперашнія адносіны з Літвою ўкладаюцца як найлепш.

Адносна Польшчы Гітлер заявіў, што ён зьвярнуўся да яе з прапазыцыяй звароту Гданска і правядзеньня праз карыдор у Усх. Прусію экстэрыторыяльнай аўтастрады і чыгункі. Гітлер разумее, што Польшч павінна мець доступ да мора, але гэтаксама Ням. павінна мець доступ да Усх. Прусіі. За гэтае Ням. гатова была загварантаваць граніцы Польшчы і заключыць з ёю пакт прыязьні на 25 гадоў. Аднак Польшч гэтыя прапазыцыі адкінула і нават далучылася да палітыкі акружэньня Нямеччыны. Дзеля гэтага Ням. зрывае з ёю заключаны ў 1934 г. пакт аб ненападаньні. Новыя перагаворы могуць быць ведзены на новых асновах.

Аб Англіі Гітлер у вострым тоне зажадаў звароту калёніяў, адабраных ад Ням. пасьля Вялікай вайны і заявіў, што бяз гэтых калёніяў не ўспакоіцца. З Італіяй Нямеччына паддзержывае прыязную і неразрыўную сувязь, разам з ёю вырвала Гішпанію з рук бальшавізму. Цесна супрацоўнічае з Японіяй і пры помачы гэтых дзяржаў завядзе справядлівейшы лад на сьвеце. З Англіяй зрывае „марскі пакт“ з 1935 г. аб будове ваенных караблёў, дзеля таго, што яна вядзе палітыку акружваньня Нямеччыны. На канфэрэнцыю, прапанаваную Рузьвэльтам, Ням. згадзіцца ня можа, бо ўжо раз была ашуканая, чаго болей не паўторыцца, безбаронная Ням. на ніякую канфэрэнцыю не паедзе.

Гэтак у вагульным нарысе выглядае прамова Гітлера, якая трывала 2 з пал. гадзіны. Характэрна, што падчас прамовы ня былі ў райхстагу амбасадары Англіі, Францыі, Польшчы, Злуч. Штатаў і Аргентыны. У прамове кідаюцца ў вочы такія мамэнты: 1) парваньне ўсякіх пактаў з Англіяй і жаданьне звароту калёніяў, 2) парваньне пакту ненападаньня з Польшчай і 3) адказ ад міжнароднай канфэрэнцыі, прапанаванай Рузвэльтам. Усе прапазыцыі Рузвэльта Гітлер проста абсьмяяў. Гэта ёсьць галоўныя мамэнты у прамове Гітлера. Але трэба зьвярнуць увагу яшчэ на некаторыя рэчы ў гэтай прамове, іменна даволі „цёплы“ тон адносна Польшчы, з якою Ням. хоча яшчэ гаварыць і адсутнасьць нападаў на Саветы. Даўней кожная прамова Гітлера вызначалася вострымі напасьцямі на Саветы. а ў вапошнім часе гэта ўжо другая прамова, у якой гэтых напасьцяў няма.

Адносна Польшчы Гітлер нават шкадуе, што не дайшло да жаданага паразумленьня... Усё гэта паказвае, што палітыка Нямеччыны ідзе да таго, каб здабыць для сабе нэўтральнасьць на Усходзе, перад нямінуючым змаганьнем на Захадзе. Такім парадкам дыпляматычная вайна можа перайсьці ў аружную. Але пакуль пачнецца гэта апошняя, мы будзем сьведкамі далейшай дыпляматычнай вайны, перад якой Гітлер дзьвярэй не зачыніў. Ён нават выразіў ахвоту гаварыць з Англіяй у справе калёніяў і з Польшчай у справе Гданска і шляхоў праз карыдор. Дык дыпляматычная вайна будзе ісьці далей.

**А. В.**

## ЗАЦЕМКІ З ЖЫЦЬЦЯ.

**Эндэцкая „праграма“.** У эндэцкіх часапісах спатыкаем час ад часу артыкулы, ў якіх закранаецца беларуская справа. Зразумелая рэч, што гэтыя часапісы не прызнаюць існаваньня беларускага народу і, хоць пішуць аб беларускай справе, не прызнаюць нават існаваньня беларускай справы! На падставе якой лёгікі яны даходзяць да гэтых высноваў — гэта ўжо іх справа; нас тут болей інтарасуюць іхныя пагляды на бел. справу, або інакш кажучы, **іхная праграма,** якую яны твораць адносна „няіснуючай“ беларускай праблемы.

З такой „праграмай“ выступіў нядаўна эндэцкі часапіс „Czyn“ (23. IV), які выходзіць у Беластоку. Гэты часапіс наўперад сьцьвярджае, што беларуская праблема хоць і існуе, аднак знаходзіцца ў стадыі „нячуванай плыўкасьці“. Нястача якіх-колечы культуральных і палітычных традыцыяў, нястача скрысталізаванай палітычнай ар'ентацыі, неўсьвядамленьне нацыянальнае „тутэйшага“ народу — усё гэта стварае грунт для розных групаў і тэндэнцыяў, часта варожых для польскай дзяржаўнасьці—кажа „Czyn“! Потым ,сьцьвердзіўшы, што адзіным лякарствам на беларускую праблему ёсьць заспакаеньне гаспадарчых патрэб „тутэйшага“ народу, часапіс ставіць такую тэзу ў беларускай справе: **„Сталы культуральны і гаспадарчы дынамізм** (з боку Польшчы — рэд.) **і малое нацыянальнае ўсьведамленьне элемэнту азначанага як беларускі — дае нам права да прышчапленьня гэтаму адлому польскай нацыянальнай культуры і давядзеньне ў магчыма скорым часе да поўнай яго асыміляцыі!** (Падчыркнута ў „Czynie“.)

Каб дайсьці да гэтай мэты, часапіс раіць, апроч здаваленьня гаспадарчых патрэбаў, выкарыстаць касьцёл і школу і кажа, што духавенства і вучыцельства, якое варожа ці нават роўнадушна адносіцца да польскіх мэтаў на ўсходзе, не павінна быць талеравана на становішчах. Духоўніку ці вучыцелю, якія аддаюцца польскай нацыянальнай справе, павінны быць роблены палёгкі ў водпусках і ў матар'яльным палажэньні. „Урэшце ня можам ніколі забыцца, кажа „Czyn“, што нашай гістарычнай лініяй ёсьць стварэньне з лініі Збруч-Дзьвіна выпадовага бастыёну польшчыны, і што на захад яе ня можа астацца ніякая іншая культура, апроч польскай. Гэта ёсьць нашае вялікае і сьвятое права, якога ня можна нам пазбывацца ў імя „промэтэйскіх“ мрыяў“.

Да гэтага выснаву даходзіць „Czyn“. Як бачым, паклікаецца нават на „вялікае і сьвятое права“ ў кірунку зьвядзеньня са сьвету беларускага народу на гэты бок рыскае мяжы! На гэта адкажам, што зьвядзеньне са сьвету другога народу, ды яшчэ славянскага, ёсьць не „вялікім і сьвятым“, але **канібальскім** правам! Аб гэтым „хрысьціянскія“ эндэкі забываюцца! Дзівіцца толькі трэба тупагаловасьці эндэкаў, якія ў сяньняшнія трывожныя дні, калі гразіць небясьпека ўсім, распрацоўваюць праграму зводу са сьвету „братняга славянскага народу“!

**Дэкларацыя „УНДО“.** Дня 23.IV. у Львове на паседжаньні Цэнтральнага Камітэту УНДО пасол Мудры адчытаў дэклярацыю аб падставах і асновах украінскай нацыянальнай палітыкі ў Польшчы. Цэнтральны Камітэт УНДО пастанавіў прыняць гэтую дэклярацыю за сваю. У дэклярацыі сказана, што прычынай гэтай новай дэклярацыі ёсьць сяньняшняе міжнароднае палажэньне, якое можа ў кожнай хвіліне паставіць Польскую дзяржаву, а разам і ўкраінцаў перад фактам вайны.

Зьмест дэклярацыі такі: Наўперад п. Мудры сьцьвярджае, што ўкраінская палітыка павінна быць незалежнай ад вонкавых уплываў. Там дзе гэтая залежнасьць выявілася (напр. на Карп. Украіне — кажа дэклярацыя), украінскі народ страціў многа крыві. Дзеля гэтага ўкраінская палітыка не павінна ісьці па лініі чужых заінтарасаваньняў. Прыгэтым УНДО хоча быць лёяльным адносна Польскай дзяржавы і дэкляруе споўніць усе абавязкі. Аднакаж пры ўсім гэтым УНДО дамагаецца поўнаты ўсіх правоў для ўкраінскага народу і заяўляе, што падставай новага польска-ўкраінскага паразумленьня павінна быць утрыманьне, забесьпячэньне і загварантаваньне дагэтуляшняга стану ўладаньня украінцаў і прасьцераганьне законнасьці.

Гэтакія ёсьць у агульных нарысах пажаданьні Укр. Народна-Дэм. Аб'еднаньня. Трэба прызнаць, што УНДО, так як і ўсё ўкраінскае грамадзянства, умее актывізаваць украінскую справу. Умее таксама бараніць свой стан уладаньня асабліва ў сяньняшнія цяжкія часы. Але з другога боку цяперашняя ўгадовая палітыка УНДО яшчэ ня ёсьць палітыкай ўсяго ўкраінскага народу. Прыгэтым і польскае грамадзянства вельмі неахвотна ідзе на ўсякія „нормалізацыі“ сваіх адносін з нац. меншасьцямі, а нават здараюцца з боку эндэкаў зусім неадпаведныя выступленьні проціў сваіх славянскіх „братоў“, асабліва проціў слабейшых, як аб гэтым часта мы пісалі і цяпер пішам. Нам здаецца, што польскае грама-

# З польска-нямецкіх адносін.

Польска-нямецкія адносіны, якія ў канцы сакавіка перажывалі свой „крызыс“, і цяпер яшчэ прыцягваюць увагу палітычных кругоў. Розныя палітыкі, якія маюць доступ да тайніцаў дыплямацыі, стараюцца раскрыць тайніцу тых трывожных дзён, якія перажывала тады ўся Польшч і ў загранічных часапісах зьмяшчаюць на гэту тэму розныя інфармацыі. З заграніцы гэтыя інфармацыі трапляюць на бачыны польскай прэсы і такім парадкам прычыны трывожных дзён памалу выясьняюцца. Мы хочам тут зазнаёміць нашых чытачоў з некаторымі інфармацыямі, якія былі друкаваны ў польскай прэсе. Ці гэтыя інфармацыі вычэрпываюць увесь фактычны матар'ял і ці яны адказваюць сапраўднасьці, мы пакуль-што судзіць не бяромся, але падаём тое, што цяпер зьяўляецца даступным кожнаму дасьледчыку палітычнага жыцьця апошніх дзён.

Перш-на-перш зьвернем увагу на артыкул францускага часапісу „Candide“, артыкул пад заг. „Падарожа да загрожаных краёў“. У гэтым артыкуле аўтар, Бэртран дэ Жувэнэль, прадстаўляе пачарзе выпадкі, якія выклікалі ў Польшчы распарадкі, маючыя на мэце ўзмацненьне абароннасьці дзяржавы. „Дня 21 сакавіка, ў той самы дзень, у каторы сьвет даведаўся аб анэксыі Клайпэды, мін. Рыбэнтроп прыймае польскага амбасадара ў Бэрліне і разьвівае перад ім лёгічныя консэквэнцыі, якія ёсьць рэзультатам новай роўнавагі сіл у Эўропе. Нямеччына, казаў нямецкі міністар, сьпяшаецца з урэгуляваньнем тэрыторыяльных спраў. Фюрэр хацеўбы, каб найбліжэйшы партыйны кангрэс быў кангрэсам супакою, дык да гэтага часу трэба ўхіліць няправільнасьці на польска-нямецкай граніцы. Разыходзіцца аб нямногае, выясьняў мін. Рыбэнтроп, Гданск ёсьць нямецкім горадам і павінен вярнуцца да Нямеччыны. Дагэтага нямецкія аўтамабілісты, едучы з Штэціна ў Кэнігсбэрг, павінны праяжджаць без затрымліваньня перад будынкам польскіх мытнікаў. Дзеля гэтага патрэбна праз карыдор аўтастрада. Уканцы яшчэ адна малая справа — гэта Богумін, які павінен вярнуцца да Райху“. Польскі ўрад, даведаўшыся 21 сакавіка вечарам аб нямецкіх пратэнсіях да Гданска, выдаў загад аб мабілізацыі двух гадавікоў рэзэрвы.

На працягу двух наступных дзён ваколіцы Гданска, кажа далей Жувэнэль, былі на скорую руку ўкрэплены і заняты гданскай нямецкай паліцыяй, якая носіць шапкі даўнейшага палку гусараў сьмерці, які стаяў у гэтым горадзе гарнізонам у 1914 годзе. Проціў каго паліцыя прыгатаўляла абарону гораду? Проціў польскай арміі, адказвае п. Жувэнэль, бо польскі генэральны камісар у Гданску, п. Ходацкі падаў гданскім уладам да зразуменьня бяз ніякіх недагавораў наступнае: Хочаце заняць Гданск — калі ласка, толькі мушу папярэдзіць што мы яго раней зоймем. Мы маем сем дарог і тры чыгункі, па якіх можам увайсьці на тэрыторыю Вольнага Гораду. А скуль можа прыйсьці нямецкая армія? Як толькі вашыя аддзелы пачнуць прыгатаўляцца ў паход, нашыя ўжо будуць на месцы. Ня пазволім на рэалізацыю ніякага дакананага факту.

„Гандлёвыя гданскія аэрапляны і аэрапляны школы лятуноў г. Гданска гудзелі цэлы дзень 23 сакавіка, гэта значыць. у тым часе, калі Гітлер быў у Клайпэдзе. Насельніцтва, устрывожанае шумам і весткамі, чакала, што Фюрэр у паваротнай дарозе вырашыць справу Гданска. Але аэрапляны далі знаць аб вялікай колькасьці польскага войска. „Дойчлянд“ праплыў міма на адкрытым моры. Партыя ігры была адложана“.

Далей п. Жувэнэль гаворыць, што гданская паліцыя мела намер заняць вагзал у Гданску, але потым ад гэтага намеру адказалася, бо гэты намер быў бязмэтным, калі-б яго не паддзяржала нямецкая армія. Прайшло некалькі дзён. У гэтым часе Польшч энэргічна пасунула ўперад свае вайсковыя прыгатаўленьні. Дня 24 сакавіка нямецкі амбасадар у Варшаве гр. Мольткэ зьявіўся ў палк. Бэка. Што-ж яму сказаў? Дакладна няведама. Толькі пасьля гутаркі з ім палк. Бэк прыняў амбасадараў Францыі і Англіі і ягоная падарожа ў Лёндын была пастаноўлена на працягу таго дня...

Гэтак прадстаўляе францускі публіцыст апошні тыдзень сакавіка, які прынёс столькі напружаннасьці і чаканьня нейкіх падзеяў.

А цяпер паслухаем, што гаворыць іншы францускі публіцыст, Робэрт Данжон, які даведаўся з добра паінфармаваных жарол аб гутарцы паміж мін. Бэкам і амбасадарам Мольткэ.

У першым тыдні другой палавіны сакавіка, кажа п. Данжон, Нямеччына была прыгатавана дакі-

# На беларускім грунце

## 1-ШЫ МАЙ і БЕЛАРУСЫ.

Беларусы мясцамі прабавалі (і прабуюць) сьвяткаваць 1-шы май разам з марксістамі і іншымі прыхільнікамі інтэрнацыянальнага кірунку (сацыялізму і камунізму). Пару гадоў таму ў Вільні нават некаторыя беларускія „нацыяналісты“ прабавалі хадзіць па вуліцах у вадным паходзе з марксістамі. Мы ўважаем такое становішча і такія адносіны беларусаў да 1-га мая за памылковыя.

Кажуць некаторыя, што 1-шы май — гэта сьвята працоўных і дзеля гэтага ўсе работнікі павінны яго сьвяткаваць. Бязумоўна, сама ідэя „работніцкага сьвята“ ёсьць высокай і вартай пашаны. Але з другога боку, калі возьмем пад увагу сутнасьць і мэты сьвята 1-га мая, дык яно выклікае некаторыя засьцярогі. Пачынальнікі гэтага сьвята мелі на мэце выявіць міжнародную салідарнасьць пралетарыяту, паглыбіць клясавую барацьбу ў кожным народзе, прыбліжыць чалавецтва да рэалізацыі сацыялізму і камунізму. Гэтак сьвята 1-га мая разумелі ўсе прыхільнікі марксоўскага інтэрнацыяналу.

У гэтакім уняцьці і разуменьні прыйшло гэтае сьвята і да беларусаў. Некаторыя бяскрытычныя адзінкі захапіліся ім і пачалі абходзіць яго і на беларускім грунце. Тымчасам гэтае сьвята вядзе ў першую чаргу да падзелу беларускага народу на клясы і да нутраной барацьбы гэтых клясаў. Гэтакі падыход да беларускага народу ёсьць ня толькі памылковы, але і шкодны. Беларускі народ, як ведама, ня мае ў сучаснасьці іншых кляс, як толькі сялянскую і часткова работніцкую. Дзяліць сялян або работнікаў на клясы ды яшчэ праводзіць паміж імі змаганьне, уважаем за праступак проціў беларускага народу. Гэты народ у сучаснасьці ня то што ня можна дзяліць, але трэба цэмэнтаваць, бо перад ім вялікія заданьні. Народ, які хоча жыць і разьвівацца, павінен быць суцэльным, а змаганьне кляс аслабляе нацыю. Цяпер надыходзіць не змаганьне клясаў, але змаганьне народаў!

Міжнародная салідарнасьць работнікаў у часе Вялікай вайны аказалася фразай і фікцыяй. У дэцыдуючы мамэнт, калі вырашаецца доля нацыі, кожны работнік, нават сацыяліст ці камуніст, ідзе і змагаецца з работнікам варожага народу, таксама сацыялістам ці камуністам. Міт аб міжнароднай салідарнасьці работнікаў выявіўся ў часе Вялікай вайны. Шкоднасьць гэтага міту ў тым, што ён абязаружвае работнікаў слабейшай нацыі і прымушае іх змагацца за інтарэсы не свайго але чужога народу. Мы ўважаем, што для беларусаў патрэбна ня сьвята аднэй клясы, але сьвята **ўсяго народу,** або інакш кажучы, сьвята **нацыянальнае.** А гэтакім сьвятам, пакуль што, ёсьць **25 Сакавіка.**

## СПРАВА ВІЛ. БЕЛ. ГІМНАЗІІ.

Даведваемся, што Віл. Бел. Гімназія атрымала распарадак аб гадзінах і колькасьці лекцыяў на будучы 1939-40 школьны год толькі для II, III і IV клясаў, а для I-ай клясы не атрымала. Але заявы аб дапушчэньні вучняў да экзаменаў у I клясу прыймаць можна, дык справа з ліквідацыяй Гімназіі няясная. Нам здаецца, што ліквідаваць **апошнюю** беларускую гімназію, ды яшчэ ў такія часы, немагчыма. Бо ў імя чаго ліквідаваць?

## ПАДАЗРОНЫ ПАТРЫЯТЫЗМ.

Аб тактыцы камуністаў у цяперашнім польска-нямецкім споры мы пішам на іншым месцы. Усьлед за тактыкай камінтэрну ідуць „тутэйшыя“ камуністы і розныя іхныя сымпатыкі. Каб пазнаць іхную тактыку, мы апішам адзін факт, аб якім нам расказвалі.

Гэта было ў прыгранічнай паласе, над савецкай граніцай. У сувязі з цяперашняй нутраной пазыкай у Польшчы і складкамі на Фонд Нац. Абароны, было склікана сабраньне ваколічных сялян і паўпанкаў, каб вырашыць, колькі хто мае ахвяраваць на дзяржаўныя патрэбы. Старшыня сабраньня падаў праект па 2 зл. 50 гр. ад гэктара. Тады ўстае адзін панок, які ўважае сябе за паляка, і ў рачовай прамове стараецца выказаць, што ахвяра ад кожнага бяз розьніцы гэктару будзе крыўднай, асабліва калі хто мае многа зямлі няўжыткоўнай і дзеля гэтага прапануе аблажыцца складкай па 1 зл. 50 гр. ад гэктара. На гэта ўстае адзін б. грамадавец, а цяпер вялікі патрыёт і рэжа ўра-патрыятычную прамову, у якой кажа, што ён дзівіцца, што ў такую трудную часіну знаходзяцца людзі, якія шкадуюць па 2 зл. 50 гр. ад гэктара, а на яго думку трэба ахвяраваць не па 2 зл. 50 гр., але па 10 зл. і ён, маючы 4 гэктары зямлі дэкляруе 40 зл. на ФОН.

Гэта заява зрабіла на прысутных вялікае ўражаньне, пасьля яе ўсе прыціхлі і згадзіліся на 2 зл. 50 гр. ад гэктара, а на таго панка пачалі некаторыя дзейнікі глядзець, як на падазронага. Мэта гэнай тактыкі ясная; з аднаго боку заахвоціць насельніцтва да як найбольшых ахвяр, а з другога боку выклікаць нездаваленьне; разам з гэтым разбудзіць ура-патрыятызм і давесьці да вайны, а тады тактыка ведамая: яна была выпрабаваная ў расейска-нямецкай вайне... Мусіць дзеля гэтага польскія дзейнікі так крытычна глядзяць на камуністычную помач.

## З БЕЛАРУСКАЕ ПРЭСЫ.

**„Шлях М.“** (25. IV) у артыкуле “Ці край наш бедны?“ зварочвае ўвагу на патрэбу навуковых досьледаў над эканамічнымі багацьцямі нашага краю, бо „суседзі нашы стварылі ўжо такі пагляд, што землі, на якіх жывуць Беларусы, ёсьць вельмі беднымі. I прыходзіцца слухаць розных гутарак, у каторых часам і самі Беларусы праз сваю нясьведамасьць прадстаўляюць сябе, як нейкіх жабракоў. З гэтым наскрозь фальшывым і паніжаючым паглядам пакрысе прабавалі некаторыя часапісы, а перад усім „Шлях Моладзі“, змагацца. але дасюль рабілася гэта, недзе там — у канцы часапісу, на апошнім месцы. Здаецца аднак, што справу гэту трэба выцягнуць на адно з першых належных ёй месцаў, бо пагляд аб беднасьці прычыняецца да губляньня ў народзе веры ў свае сілы і стварае жабрацка - нявольніцкі настрой. Дзеля таго абявазкам беларускіх эканамістаў ёсьць у як найхутчэйшым часе дакладна пра-

дзянства яшчэ не дасьпела да нармалізацыі адносін з сваімі славянскімі меншасьцямі.

**„Земляробская самапомач“.** Дня 30.III. сёлета быў абвешчаны закон аб „агульным абавязку рачовых дапамогаў (świadczeń rzeczowych). На выпадак вайны гэты закон накладае на грамадзян вялікія абавязкі ў галіне гаспадарчай. Артыкул 38-мы гэтага закону так кажа: У часе вайны, мабілізацыі, а такжа ў прыпадках, калі гэтага будзе вымагаць інтарэс абароны Дзяржавы, сьцьверджаны пастановай Рады міністраў, уласьнікі вясковых гаспадарак абавязаны падпарадкавацца ўсякім загадам ўлады маючым на мэце прыстасаваньне вясковых гаспадарак да ваеннай прадукцыі або дзейнасьці, паводле жаданьня ўлады“. Дзеля гэтага ўлада можа загадаць уласьнікам вясковых гаспадарак: 1) выканаць азначаныя працы і ўляпшэньні, зьвязаныя з загаданаю прадукцыяй, 2) увесьці земляробскую самапомач, паводле якой уласьнікі вясковых гаспадарак будуць мець абавязак сабе ўзаемна памагаць з мэтай асягненьня як найбольшай ралейнай, агародніцкай або гадаўлянай прадукцыі. Самапомач будзе абыймаць вазы, упраж, гаспадарскія прылады, машыны, якія па загаду ўлады трэба будзе даваць іншым, апроч гэтага трэба будзе памагаць узаемна працаю, насеньнем, пошарам. За аказаную помач трэба будзе адрабіць або заплаціць, калі будзе з чаго, а калі ня будзе, дык праца выконываецца бяз ніякага адработку і заплаты. Да вясковых гаспадарак залічаны і двары. Кіраваць самапомачай будзе ў кожнай грамадзе вясковы „перадавік“ (przodownik wiejski) пад кантроляй войта і старасты. Справядліва адзначае „Zielony Sztandar“ (№ 17), што гэты закон можа прынясьці многа карысьці ў ваенны час, але можа быць вельмі дакучным, калі будзе тасавацца няўмела або з надужыцьцямі. Самі сяляне павінны дбаць пра тое, каб гэты закон быў праводжаны ў жыцьцё на аснове ладу і справядлівасьці.

**Апраўданьне групы Дэмбінскага.** У Віл. Апэляц. Судзе ад 17. да 21.IV. была разглядана справа г. зв. віленскіх інтэлектуалістаў з Дэмбінскім і Ендрыхоўскім на чале, якіх Віл. Акружны Суд засудзіў па 4 гады турмы. Вінавацілі іх у зносінах з камуністамі, у імкненьні да абваленьня сілаю існуючага ў Польшчы ладу і г. д. Дэмбінскаму закідалася, яшчэ, што на Зьезьдзе Культуры ў Львове ў сваей прывітальнай прамове назваў Львоў сталіцай Заходняй Украіны, а Вільню — сталіцай Заходняй Беларусі. Пасьля правядзеньня судовага працэсу Апэл. Суд усіх абвінавачаных апраўдаў.

**Гутаркі з нац. меншасьцямі.** „Kurier Polski“ (26. IV) паведамляе, што „некаторыя польскія палітычныя кругі ўзьнялі гутаркі з прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў у Польшчы на тэмы, зьвязаныя з абаронай дзяржавы. У Львове былі нарады з прадстаўнікамі ўкраінскага УНДО, у Варшаве гаварылася з літоўцамі, беларусамі і жыдамі“.

Якія гэта польскія кругі ўзьнялі гутаркі, і з якімі беларусамі ў Варшаве, пакуль што ня маем даных.

нуць да сваіх дасюлешніх здабычаў яшчэ адну. Гданск быў ужо гатовы прыняць панцырнік „Дойчлянд“, на якім варочаўся з Клайпэды Гітлер, але польскія гарматы былі на сваіх становішчах...

Перад гэтым дэцыдуючым у жыцьці Гданска днём былі праведзены гутаркі паміж прадстаўнікамі Польшчы і Нямеччыны. Першая гутарка адбылася паміж мін. Рыбэнтропам і амбасадарам Ліпскім. Мін. Рыбэнтроп, каторы папрасіў да сябе амб. Ліпскага, прыняў яго вельмі ветліва і ў доўгай гутарцы стараўся праканаць яго аб канечнасьці ўзгодніць дзьве справы паміж Польшчай і Нямеччынай. Мін. Рыбэнтроп казаў, што канечнай рэчай да вырашэньня ёсьць **справа Гданска,** мусіць быць такжа даведзена да канца **справа свабоднага праезду праз Памор'е.** Урэшце існуе яшчэ балючая для Нямеччыны праблема нямецкай нац. меншасьці ў Польшчы.

Зараз пасьля гэтай гутаркі амб. Ліпскі паехаў у Варшаву, дзе прадставіў польскаму ўраду прад'яўленыя жаданьні Нямеччыны. У той самы дзень амбасадар нямецкі ў Варшаве, Мольткэ, зьвярнуўся да мін. Бэка і запрасіў яго ў Бэрлін на канфэрэнцыю з Гітлерам і мін. Рыбэнтропам. Прыгэтым п. Мольткэ прадставіў мін. Бэку прапазыцыю мін. Рыбэнтропа, паводле якой добрыя польска-нямецкія адносіны трэба было-б яшчэ папрэвіць і прадоўжыць пакт ненападаньня на далейшыя 15 гадоў, але гэта вымагае, каб Польшч споўніла некаторыя варункі. Да гэтых варункаў належаць: справа Гданска, справа аўтастрады праз Памор'е і справа Богуміна, якую трэба было-б абгаварыць. Прыгэтым амбасадар Мольткэ паказаў прыклады, як сабе прадстаўляе вырашэньне гэтых спраў. Урэшце Нямеччына жадалаб, каб Польшч далучылася да антыкамуністычнага пакту. Міністар Польшчы ў адказ сьцьвердзіў, што ня можа скарыстаць з запросін да Бэрліна, бо прыгатаўляецца ехаць у Лёндан, а гэтая падарожа мае для яго вялікае значэньне. Хоць мае гонар быць запрошаным у Бэрлін, аднакаж думае, што ў гэных справах можна будзе пагаварыць пазьней...

Калі пасьля такога адказу амбасадар Мольткэ ўстаў, каб разьвітацца, мін. Бэк на разьвітаньне дадаў: „апроч гэтага хацеў я папярэдзіць, што польскі ўрад пастанавіў паклікаць да аружжа каля 600 тысяч чалавек“. Пасьля гэтай гутаркі амбасадар Мольткэ выехаў у Бэрлін...

Гэтакі быў зьмест гістарычных гутарак паміж прадстаўнікамі Польшчы і Нямеччыны ў другой палавіне сакавіка сёлета, паводле францускай прэсы. Ці гэты зьмест адказвае сапраўднасьці, ведаюць толькі беспасярэднія ўчасьнікі гэтых гутарак. Польская прэса, а за ёю і мы, падаём на адказнасьць францускай прэсы.

Чаму Польшч заняла такое здэцыдаванае становішча адносна нямецкіх жаданьняў — згадаць лёгка: яна баіцца далейшых нямецкіх, яшчэ большых жаданьняў. Апроч гэтага польскі ўрад мае за сабою ўсё польскае грамадзянства і дэмакрацыі Захаду.

Што датыча далейшых нямецкіх плянаў, дык яны ідуць вельмі далёка. „Warszawski Dz. Narodowy“ (21.IV), апіраючыся на органе гітлероўцаў „Völkischer Beobachter“ (венскае выданьне з 5.IV сёлета), падае некаторыя пляны Нямеччыны ў Сярэдняй і Ўсходняй Эўропе. I так — Нямеччына імкнецца да фэдэрацыйнага ладу ў тых дзяржавах, якія маюць у сабе тэрытарыяльныя нацыянальныя меншасьці. „Сарганізаваньне ў граніцах Райху шырока ўнятай аўтаноміі чэскай і стварэньне самастойнай Славакіі пад апекай Райху ёсьць першымі крокамі ў кірунку фэдэрацыйнага ладу“ — кажа гітлероўскі орган. На гэтае „Warsz. Dz. Nar.“ адказвае, што разьбіваньне суседніх дзяржаўных арганізмаў на паасобныя аўтаноміі ёсьць адным з спосабаў, якім Нямеччына імкнецца да пашырэньня сваіх уплываў. Гэты спосаб мае быць тасаваны на ўсім прасторы ад Балтыцкага да Чорнага мора і мае датычыць, як падае „Warsz. Dz. Nar.“, македонскае праблемы на Балканах, украінцаў і беларусаў у Польшчы, баўгараў у Румыніі і аджываючую ў вапошніх часох сяміградзкую дзяржаўную ідэю. Гэтыя справы будуць пхаць гэтую часьць Эўропы праз розныя мірныя рэвізіі граніц да фэдэралізму.

Гэтакія ёсьць сапраўдныя пляны Нямеччыны, кажа „Warsz. Dz. Nar.“. Да рэалізацыі плянаў сусьветнага нямецкага валадарства Польшч дапусьціць ня можа. Польскі народ зразумеў гэтыя пляны і адказаў на іх, як належыцца — канчае „Warsz. Dz. Nar“.

Падалі мы тут галасы польскай і заграмічнай прэсы, каб выясьніць ня толькі сутнасьць польска-нямецкіх адносін, але каб зразумець прычыны завязваньня таго палітычнага вузла, які завязваецца на ўсходзе Эўропы.

Р. С.

# На міжнародным грунце

## АГУЛЬНЫ АГЛЯД.

У папярэднім нумары „Б. Фронту“ мы пісалі, што абодва варожыя блёкі **займаюць пазыцыі,** каб у кожную хвіліну быць гатовымі на ўсе магчымасьці. Цяпер можна сказаць, што пазыцыі ўжо заняты ўсюды, дзе гразіць небясьпека, або дзе найлепшы стратэгічны пункт. І так — занята войскам франц. лінія Мажыно, а насупроць нямецкая лінія Зыгфрыда; абсаджаны Гібралтар, Цэўта, Мальта, Пантэлярыя, Суэз і ўсе іншыя пазыцыі, каля Міжземнага мора, абсаджаны войскам граніцы бадай кожнай эўрапэйскай дзяржавы, аднак паміма гэтага вайны няма! Чаму? Усе разумеюць, што ў сяньняшнія часы выклікаць вайну — гэта завялікая рызыка, завялікае праліцьцё крыві і... няпэўны рэзультат. Дзеля гэтага арміі стаяць напагатове на занятых пазыцыях, але пачынаць вайны ніхто не адважваецца, мусіць, чакаючы разьвіцьця выпадкаў і „лепшых“ варункаў“.

А тымчасам ідзе „дыпляматычная“ вайна і мабілізацыя тых сіл, якія яшчэ асталіся, ці хочуць астацца у старане ад усіх блёкаў і восяў. Гэтая мабілізацыя адбываецца галоўна ў двух пунктах: на Балканах і ў Саветах. На Балканах ідзе дыпляматычны бой за Югаславію, Румынію, Баўгарыю і Турцыю, а Саветы ўсімі сіламі хоча прыцягнуць Англія да свайго блёку. Аб гэтай мабілізацыі і дыпляматычнай вайне мы пішам на іншым месцы.

Падзеі ў другой палавіне красавіка разьвіваліся ў такім парадку: ахвяраваньне альбанскай канстытуантай альбанскай кароны італьянскаму каралю, каторую гэты апошні з вялікім задаваленьнем прыймае; выступленьне прэз. Рузвэльта, скіраванае да Нямеччыны і Італіі, з прапазыцыяй міру і скліканьня міжнароднай канфэрэнцыі; заява Гітлера, што ён дасьць адказ Рузвэльту 28. IV. на паседжаньні Райхстагу; зварот Нямеччыны да 19-ці дзяржаў з запытаньнем, ці чуюцца загрожанымі і нэгатыўны адказ гэтых дзяржаў; паварот у Бэрлін англійскага і францускага амбасадараў, якія былі выехаўшы пасьля заняцьця Нямеччынай Чахаславаччыны, прыгэтым Рыбэнтроп ня хоча гаварыць з англійскім амбасадарам Гэндэрсонам, матывуючы гэтую адмову „нястачай часу“ і тым, што ён прыймае югаславянскага міністра загр. спраў Марковіча; мабілізацыя ў Нямеччыне 6 гадавікоў рэзэрвы ў сіле 1 мільён 200 тысяч чалавек; пастанова англ. ураду аб паступовым увядзеньні ў Англіі абавязкавай вайсковай службы; а ўрэшце чаканая ўсім палітычным сьветам прамова Гітлера.

## УСХОДНІ ВУЗЁЛ.

Імкненьнем Нямеччыны на ўсходзе ёсьць захаваньне гэтым ўсходам нэўтральнасьці ў прыпадку аружнага змаганьня на захадзе; а імкненьнем Англіі ёсьць дзейнае выступленьне ўсходу проціў Нямеччыны. Гэтакім чынам завязваецца на ўсходзе аграмадны палітычны вузёл, які мае вялікую колькасьць канцоў. У цэнтры гэтага вузла знаходзіцца Польшч і Саветы, апроч іх уваходзяць у ігру Румынія з Турцыяй і ўсімі балканскімі дзяржавамі, Югаславіяй, Баўгарыяй і Грэцыяй; апроч гэтага Літва, Латвія, Эстонія і Фінляндыя. Англія хоча прыцягнуць да свайго блёку Саветы, як найсільнейшы фактар на Ўсходзе.

**Саветы** вядуць вельмі загадковую ігру і на ўсе стараньні Англіі далучыць іх да „дэмакратычнага“ блёку адказваюць ухільна. Раз яны ставяць варункі, каб Англія забясьпечыла іх граніцы на Далёкім Усходзе, з боку Японіі, другі раз дамагаюцца поўнай свабоды для сваей арміі на захадзе, каб магла ўваходзіць на тэрыторыі тых дзяржаў, якія ляжаць паміж імі і Нямеччынай і займаць у іх важнейшыя стратэгічныя пункты. Аднак гэтага жаданьня Англія здаволіць ня можа, дзеля тэй простай прычын, што ўсе саюзныя з Англіяй дзяржавы не хочуць пускаць савецкае арміі на свае тэрыторыі, ведаючы чым гэта гразіць. Урэшце кожная армія увайшоўшы на чужую тэрыторыю, ня вельмі хоча з яе выхадзіць. Найболей пратэстуе проціў уваходу сав. арміі на сваю тэрыторыю Польшч. Усе спробы праканаць Польшч і іншыя дзяржавы аб канечнасьці ўваходу сав. арміі на іх тэрыторыі асталіся без рэзультату. Дзеля гэтых перашкодаў Англіі не ўдалося прыцягнуць Саветаў да свайго блёку.

Але ёсьць яшчэ іншыя прычыны гэтакай палітыкі Саветаў: яны ня хочуць ісьці першымі ў бой, ведаючы добра, што Англія ваюе за свае інтарэсы да апошняга савецкага, францускага і ўсякага іншага салдата, але хочуць захаваць сваю армію на апошні дэцыдуючы дзень.

Гэтакае самае нявыразнае становішча займаюць і іншыя дзяржавы, як на Балканах, так і ў Прыбалтыцы. Яны баяцца ўгнявіць як адзін так і другі блёк і дзеля гэтага стараюцца быць нэўтральнымі. **Югаславія**, узятая ў клешчы „дынамічным“ блёкам, сілай канечнасьці схілілася ў бок гэтага блёку, хоць нутраныя яе сымпатыі па старане „дэмакратычнага“ блёку. Гэтак сама паступае **Літва**. Літоўская дэлегацыя, якая была запрошана Гітлерам на дзень ягоных урадзінаў (20. IV), была прынята ў Бэрліне вельмі ветліва. Начальнік літ. генэральнага штабу, ген. Раштікіс, быў прысутны на манэўрах пад Бэрлінам і меў магчымасьць пагаварыць з дэцыдуючымі дзейнікамі, ў тым ліку з Гітлерам. „Słowo“ (28. IV) пішучы аб гэтым, кажа, што Літва апынулася на шляху да няведамага... З кім пойдзе Літва ў прыпадку вайны, з Нямеччынай на Вільню, ці з Польшчай на Клайпэду? Нам здаецца, што пойдзе з тым, хто будзе перамагаць у канчаткавай фазе вайны. Гэтак зробяць і іншыя дзяржавы, якія цяпер хочуць быць нэўтральнымі. Выразнае і здэцыдаванае становішча займае на ўсходзе толькі Польшч. Усе іншыя дзяржацца хістлявага нэйтралітэту.

## ПАЛІТЫКА АНГЛІІ.

Англія, як ведама, стала на чале антыфашыстоўскнга блёку і пачала палітыку акружваньня Нямеччыны. З гэтай мэтай яна пачала гвараантаваць граніцы і незалежнасьць многім дзяржавам, як Польшчы, Румыніі, Грэцыі, Бэльгіі, а нават абяцалася гэтае самае Даніі і Галяндыі. Але бяда ў тым, што Англія дагэтуль ня мела прымусовай вайсковай павіннасьці, а яе армія складалася толькі з ахвотнікаў, якіх было 170 тысяч, а ў апошнія месяцы каля 300 тысяч. Дзеля гэтага францускі ўрад часта вытыкаў Чэмбэрлену і Галіфаксу, што гвараантаваць, то вы гварантуеце, але ці вашая гваранцыя што паможа, калі ў вас няма войска? Францыя і іншыя саюзьнікі Англіі давалі зразумець, што ніколі ня згодзяцца, каб Англія дастаўляла толькі кулі і грошы, а іншыя сваю кроў. Гэтакім парадкам грозныя абставіны, а такжа пратэст саюзьнікаў прымусілі Англію ўвесьці ў сябе абавязкавую вайсковую паваннасьць. Гэта за некалькі месяцаў дасьць 750 тысяч падучаных збольшага рэкрутаў.

Але ня толькі жаданьні саюзьнікаў выклікалі ўвядзеньне нялюбай у Англіі абавязкавай вайсковай павіннасьці, але былі яшчэ іншыя прычыны, як страх перад Нямеччынай і захаваньне прэстіжу. Як ведама, Нямеччына ідзе на ўсё, Англія „на ўсё“ яшчэ не гатова, дык ў вапошнія дні перад прамовай Гітлера выслала амбасадара Гэндэрсона ў Бэрлін з нейкімі прапазыцыямі. Усе здагадваліся, што Англія хоча паразумленьня з Нямеччынай і ідзе на новы Мюнхэн. Гэта значыць, што пагодзіцца з Нямеччынай коштам іншых, так як пагадзілася ў Мюнхэне коштам Чэхаславачыны... Аднак аказалася, што даручэньне, дадзенае Гэндэрсону, было іншае, іменна, Англія мелася прасьцерагчы Гітлера, каб ён у сваей прамове задалёка ня ішоў і як гэта кажуць, не паліў за сабою ўсіх мастоў, бо тады Англія ўзмоцніць свае ўваружэньні і ўвядзе агульную вайсковую павіннасьць...

Увесь палітычны сьвет сьлядзіў з вялікай увагай, што з гэтай „прасьцярогі“ выйдзе — і выйшла тое, чаго ніхто не спадзяваўся: ў Бэрліне з Гэндэрсонам не хацелі гаварыць! Рыбэнтроп заявіў, што ён заняты і ня мае часу... Гэта ўжо была проста аплявуха для гордай „англічанкі“ і адказам на гэту ганьбу было ўвядзеньне агульнай вайсковай службы ў Англіі.

Аднак паміма ўсяго, Нямеччына 28.IV выслала Англіі мэмор'ял, заклікаючы да гутарак. Гэтакі самы мэмор'ял Нямеччына выслала і Польшчы. Мэмор'ял быў даручаны ў Варшаве 28.IV. на некулькі мінут перад пачаткам прамовы Гітлера.

## НЯМЕЦКІЯ ПРАПАЗЫЦЫІ ПОЛЬШЧЫ.

Нямецкія прапазыцыі Польшчы такія: 1) Гданск адыходзіць да Нямеччыны, 2) Нямеччына атрымлівае праз карыдор адну шасу і адну чыгунку, якія падлягаюць Нямеччыне. За гэта Нямеччына гатова: 1) прызнаць за Польшчай увесь карыдор і наагул усю польскую заходнюю граніцу, 2) заключыць з Польшчай пакт ненападаньня на 25 гадоў, 3) загвараантаваць польскія гаспадарчыя інтарэсы ў Гданску і 4) урэгуляваць усе гаспадарчыя і камунікацыйныя справы, якія выплылі-б у сувязі з далучэньнем Гданска да Нямеччыны, 5) загвараантаваць незалежнасьць Славакіі і зьвязаных з гэтым інтарэсаў Польшчы.

Польскі ўрад гэтыя прапазыцыі возьме пад развагу і дасьць адказ.

Аднак польская прэса ня мае надзеі на пазытыўнае вырашэньне гэтых спраў. Прычынай гэтага ёсьць **недавер да нямецкай палітыкі,** бо нямецкія дэцыдуючыя дзейнікі адно гавораць, а другое робяць... Як справа Гданска, так і аўтострада праз карыдор — гэта толькі пачатак, піша польская прэса, а за імі пойдуць іншыя жаданьні, так як адносна Чэхаславаччыны. „Кур. Віл.“ піша, што гваранцыі, даваныя Бэрлінам, ня трываюць нават пару месяцаў. Наагул, тон польскай прэсы адносна Нямеччыны і яе жаданьняў востры і станоўкі. Польская прэса згодна піша, што Польшч **нічога** ня ўступіць. „Słowo“ адзначае, што тыя надзеі, якія мела Польшч у здабываньні супольнай граніцы з Вугрыяй, ня будуць мець у жыцьці большага значэньня, бо Вугрыя ар'ентуецца на вось „Бэрлін-Рым“. І нам здаецца што Вугрыя проціў Нямеччыны ня выступіць, але скарэй можа выступіць разам з Нямеччынай.

## АПОШНІЯ ВЕСТКІ.

— Пасьля прамовы Гітлера, пачаліся загадковыя **нарады нямецкага і італьянскага генэральных штабаў.** Начальнік ням. ген. штабу, Браўхіч, выехаў у Рым, дзе мае адбыць нарады з начальнікам італ. ген. штабу Парыяні і прадстаўнікамі іншых саюзных штабаў. Ген. Браўхіч адведае некаторыя „пазыцыі“ каля Міжземнага мора. Усё гэта ўзятае разам з весткай аб мабілізацыі ў Нямеччыне 1 мільёна 200 тысяч (прыгэтым 200 тысяч быццам былі высланы ў Італію), выклікала зразумелую трывогу. Кажуць, што Міжз. мора і Францыя могуць стацца тэрэнам важных падзеяў. На Міжз. моры сканцэнтравалася вялікая часьць англійскай, францускай, уся італьянская і часьць нямецкай флёты. Былі чуткі, што туды плыве і японская флёта ў сіле 32 адзінак, але гэтыя чуткі не пацьвярдзіліся. Нямецкая флёта, плывучы ў Гішпанію каля Англіі і Францыі быццам была ў поўнай баёвай гатоўнасьці...

— Прэз. Рузвэльт мае адказаць Гітлеру. Апроч гэтага з прамовай мае выступіць Муссоліні і мін. Бэк.

Дыпляматычная вайна цягнецца далей.

---

студыяваць, дасьледзіць і належна прадставіць эканамічнае палажэньне нашага краю і ягоныя натуральныя багацьці. Урэшце, ня трэба быць нават вучоным эканамістам, а толькі пільным наглядчыкам, каб пераканацца, што з намі ня ёсьць так кепска, як часта прадстаўляюць, а гэта ізноў прамаўляе за тым, каб больш мы цікавіліся справамі эканамічнымі.

Далей „Шлях М.“ затрымліваецца ў вагульных рысах над эканамічнымі багацьцямі нашага краю і заклікае беларускіх навукоўцаў, якія працуюць на ніве экономікі да грунтоўных студыяў над нашым краем. Гэты заклік зусім жыцьцёвы і мы яго паддзержываем усей душой. Нам трэба дакладна ведаць, што мы маем, якія эканамічныя багацьці крыюцца ўнутры краю, сколькі ён мае якой прадукцыі, якія перад ім магчымасьці, сколькі якой зямлі і г. д. Гэтая справа ў нас ляжыць дзірваном і ніхто, здаецца, з нашых маладых навукоўцаў да гэтай працы навукова ня ўзяўся. Памылку гэту трэба направіць!

## РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— Як мы пісалі ў мінулым годзе, група віленскіх беларусаў падала Віленскаму Ваяводзе на пацьверджаньне Статут „Беларускага Саюзу Абстынэнтаў“, але Ваявода адмовіў у рэестрацыі Статуту. Ад пастановы Ваяводы быў пададзены рэкурс у Міністэрства Ўнутран. Спраў, аднак і там Статуту не пацьвердзілі. Беларускі Саюз Абстынэнтаў меў на мэце змаганьне арганізаваным спосабам з п'янствам і курэньнем тытуну. Цяпер асталося беларусам змагацца з гэтым злом неарганізаваным спосабам. Як мы чулі, абстынэнцкая акцыя ў горадзе і на правінцыі разьвіваецца саматужна, асабліва пасярод моладзі і дае добрыя рэзультаты. Добра было-б, каб гэтае змаганьне набрала характару **масавай** акцыі, бо тады выяўляецца болей энэргіі і ёсьць ідэйнае падтрыманьне адных другімі.

— Дня 4 чэрвеня сёлета адбудзецца беларуская каталіцкая пілігрымка ў Кальварыю, пад Вільняй. Гэтыя пілігрымкі адбываюцца штогод і сьцягваюць значны лік беларусаў-каталікоў нават з далейшых ваколіц.

---

**Беларусы, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“. Пашырайце яго пасярод сваіх суседзяў і знаёмых! Прысылайце складкі і ахвяры!**

Рэдактар-выдавец:
**мгр. В. Гадлеўскі.**

Redaktor i wydawca: mgr. W. Godlewski.

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.